# Газета для вас

29 чэрвеня — 5 ліпеня 2001 г.
№ 26 (289)

Грамадска-палітычны штотыднёвік, выдаецца са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН




## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:



# ВЫЗВАЛІЦЕЛІ

## 3 ЛІПЕНЯ — ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (ДЗЕНЬ РЭСПУБЛІКІ) І ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ АД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ

**Група афіцэраў 138-га Чырвонасцяжнага Берлінскага стралковага палка 48-й гвардзейскай дывізіі, якія вызвалялі Івацэвічы. У цэнтры — палкоўнік Варыпаеў, падпалкоўнік Кучаравенка, падпалкоўнік Ягораў.**

3 ліпеня — Дзень вызвалення г. Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Ён стаў агульным святам для ўсёй Беларусі. Але вызваленне рэспублікі працягвалася. Толькі ў першай палове ліпеня Чырвоная армія падышла да Івацэвічаў.

З раніцы 11 ліпеня часці 48-й гвардзейскай стралковай Крыварожскай дывізіі (камандзір генерал-маёр Г. М. Корчыкаў) рухаліся з баямі ў напрамку Брэст—Кобрын.

138-ы гвардзейскі стралковы полк фарсіраваў раку Грыўда і завязаў баі на паўночнай ускраіне Івацэвічаў, а 134-ы полк уварваўся на станцыю Івацэвічы.

У баях за Івацэвічы вораг страціў забітымі і параненымі да 200 салдат і афіцэраў, два танкі і два бронетранспарцёры, 10 кулямётаў, дзве гарматы і прадуктовы склад.

Пасля вызвалення раёна больш як сем тысяч нашых жыхароў ўліліся ў рады Чырвонай Арміі. Больш за дзве тысячы нашых землякоў не вярнуліся з вайны да родных хат.

Святаслаў КАЖАДУБ.

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Якой з групаў дазволена збіраць подпісы ў працоўны час на прадпрыемствах?

Некаторыя ініцыятыўныя групы, прыкладам, група падтрымкі Сямёна Домаша, акрамя пакватэрнага абыходу арганізоўвае і вулічныя перасоўныя пункты збору подпісаў.

З абласнога штабу Домаша паведамляюць, што ягонае вылучэнне кандыдатам на прэзідэнта падпісалі ў Гомельскай вобласці ўжо 3000 выбаршчыкаў.

Ініцыятыўная група колькасцю 376 чалавек актыўна дзейнічае ў 7 найбольш буйных гарадах у падтрымку Уладзіміра Ганчарыка.

А вось ліберальныя дэмакраты за свайго лідэра Сяргея Гайдукевіча збіраюць подпісы толькі ў Гомелі ды Жлобіне.

Групу Аляксандра Лукашэнкі ўзначальвае былая загадчыца ўпраўлення сацыяльнага забеспячэння аблвыканкаму Паліна Шаўцова. Яе збіральнікі подпісаў ходзяць у рабочы час па прадпрыемсвах і ўстановах. Прынамсі, падобнае назіралі ва Універсітэце транспарту.

**Радыё "Свабода".**

## Предприятиям АПК деньги нашли

**Четырнадцати комбинатам хлебопродуктов, комбикормовым заводам и другим предприятиям агропромышленного комплекса Беларуси выделяется бюджетная ссуда в размере 9,1 миллиарда рублей со сроком возврата до 1 декабря 2001 года.**

Эти деньги выделяются из средств бюджетного фонда поддержки сельхозпроизводителей для погашения задолженности данных предприятий перед ЗАО "Белагроинторг" за поставленное зерно, закупленное за счет кредита Чешского экспортного банка. Совет Министров поручил Министерству финансов зачесть выделенные средства в счет погашения задолженности ЗАО "Белагроинторг" по платежам, произведенным из республиканского бюджета по кредиту Чешского экспортного банка.

## Срок выплат может быть продлён

**В июле Белорусский республиканский фонд "Взаимопонимание и примирение" планирует начать компенсационные выплаты из немецкого фонда "Память, ответственность и будущее" для узников концлагерей, гетто и остарбайтеров.**

Об этом, выступая 22 июня в Бундестаге (Берлин), сообщил председатель фонда "Взаимопонимание и примирение" Валентин Герасимов.

Есть основания рассчитывать, что в июле начнется выдача компенсационных сумм первым 10 тысячам узников и остарбайтеров.

Как сообщил в интервью БелаПАН официальный представитель Беларуси в Попечительском совете фонда "Память, ответственность и будущее" Владимир Адамушко, рассчитывать на получении немецких выплат могут порядка 173 тысяч граждан Беларуси.

Кроме того, сообщил Владимир Адамушко, фонд "Память, ответственность и будущее" вышел с инициативной к депутатам Бундестага внести поправки в федеральный закон о компенсационных выплатах и продлить срок подачи документов на их получение с 12 августа до 31 декабря 2001 года.

## Тема Холокоста

**Семьдесят учителей истории из школ и университетов Беларуси, России и Украины приняли участие в международном семинаре, посвященном подготовке преподавателей по теме Холокоста.**

Семинар проходил в Бресте с 21 по 24 июня. На нем присутствовали ветераны войны, бывшие узники брестского гетто, а также школьники из трех названных государств, победившие в национальных конкурсах на лучшее исследование по теме Холокоста. Мероприятие было организовано израильским мемориальным институтом "Яд Вашем", российским фондом "Холокост" и одноименным брестским образовательным центром.

## Претендуют в книгу рекордов Гиннесса

**Самый длительный футбольный матч, который может попасть в Книгу рекордов Гиннесса, прошел на брестском стадионе "Строитель" с 21 по 23 июня.**

Матч длился 51 час. Как сообщил БелаПАН пресс-секретарь "Аматара" Эдуард Белемук, участие в непрерывной игре приняли 33 команды, условно разделенные на две группы - "Север" и "Юг". В результате со счетом 255:161 победила группа команд "Север". Возраст игроков колебался от 13 до 50 лет. Игрыли представители самых различных профессий и социальных слоев. В матче были только технологические перерывы. В результате брестчане побили рекорд поляков, которые непрерывно играли 47 часов.

Что касается зрителей, то наибольшую заинтересованность у них вызвали игры в ночное время.

**БелаПАН.**

# ХТО ДАПАМОЖА ЗАПАЛЯНЦАМ?

**З такім пытаннем звярнуўся ў рэдакцыю І. І. Рабчэня, староста вёскі Заполле Косаўскага сельсавета Івацэвіцкага раёна.**

"Да мяне штодня прыходзяць вяскоўцы, — сказаў ён, — каб я патурбаваўся перад начальствам аб наладжванні на пашы вадапою для кароў з вясковых падвор'яў. Справа ў тым, што на поўнач ад сяла быў яшчэ нядаўна невялікі вадаём, дзе можна было паіць кароў. Калі пачысцілі і паглыбілі каналы ля вёскі, вады ў тым паглыбленні (яго ў Заполлі называюць "Лужок") не стала. Паменшала значна яе і ў людскіх калодзежах. Так узнікла праблема паення кароў на пашы.

Што ж трэба зрабіць? Толькі адно: паглыбіць той "Лужок". Сродкаў на гэта ні ў калгасе, ні ў сельсавеце няма. Запалянцы згодны самі заплаціць, сабраўшы грошы. Патрэбен экскаватар, а яго таксама няма. Дзе ж выхад?

Каб праясніць сітуацыю, рэдакцыя звязалася па тэлефоне са старшынёй Косаўскага сельсавета **Э. В. ЦВІРКО**. Як мы даведаліся, запалянцы мала прадаюць малака дзяржаве. Летась, напрыклад, на карову выйшла толькі 347 кілаграмаў. Прычыны дзве. Першая заключаецца ў тым, што ў мінулым годзе частку хворых на лейкоз кароў выбракавалі. Другая — нізкая цана малака, усяго 120 рублёў за літр. Многа вяскоўцаў за такую смехатворную цану не хочуць здаваць малако дзяржаве.

Як сказаў рэдакцыі Э. В. Цвірко, яны дамовіліся са старшынёй калгаса "Косава" А. П. Шчурко, каб часова падвозіць ваду на пашу, як і для калгасных кароў. Калі ж паявіцца тэхніка, тады будзе паглыблены вадаём "Лужок".

Што ж, выхад адзін — прыдзецца пачакаць.

**Падрыхтаваў Святаслаў КАЖАДУБ. Івацэвіцкі раён.**

## "Дарослыя і дзеці"

**ДРАГІЧЫН.** Так назвалі клуб выхаднога дня, які працуе ў дзіцячым садзе № 2 райцэнтра. Сюды часта прыходзяць бацькі цэлымі сем'ямі. Кіруе клубам вопытны педагог Людміла Васільеўна Шаўчук. Менавіта яе заслуга ў тым, што бацькі сталі больш цікавіцца дзецьмі, часцей заходзяць у садок, унікаюць у сутнасць выхаваўчай работы, актыўна дапамагаюць выхавальнікам.

Самыя надзённыя пытанні абмяркоўваюцца на пасяджэнні клуба: "Як любіць дзяцей?", "Рух — гэта жыццё" і "Сам сабе — доктар", "Ад усмешкі стане ўсім святлей", "Гульня — справа сур'ёзная" і іншыя.

У добрай, сяброўскай атмасферы праходзяць пасяджэнні клуба. За кубкам гарбаты бацькі не толькі дзеляцца думкамі, падказваюць адзін аднаму як вырашаць надзённыя праблемы, але і разам весяляцца. Дзеці, што знаходзяцца тут жа, заняты сваімі справамі — яны танцуюць, гуляюць, словам, не адстаюць ад дарослых.

**Галіна АЛЕКСЯЕВІЧ.**

## День призывника прошёл в Пружанах

**В этом году в Вооруженные Силы Республики Беларусь отправились служить 94 юноши.**

Треть останется служить в районе, остальные направлены в погранвойска, войска МВД и другие виды и рода ВС РБ.

В нынешнем призыве, по словам военкома, подполковника Н. А. Кривушина, всем выпускникам школ, желающим поступать дальше, решением министра обороны предоставлена такая возможность. Тех же, кто не поступил, ждет осенний призыв.

**Кристина КРУГЛЕВИЧ.**

## Поспех Вольгі Кныш на алімпіядах па матэматыцы

**БЕЛААЗЁРСК.** Вольга Кныш — выпускніца Белаазёрскага ПТВ № 82 (група № 345). На абласной алімпіядзе ў Брэсце па выніках двух тураў яна заваявала трэцяе месца і пуцёўку на рэспубліканскую алімпіяду. Яна адбылася ў старажытным Полацку. Трохдзённае знаходжанне 37 навучэнцаў ПТВ у горадзе на Заходняй Дзвіне запомніцца надоўга. Акрамя напружанай разумовай працы, хлопцы і дзяўчаты маглі дазволіць сабе расслабіцца і адпачыць, пазнаёміцца з выдатнымі мясцінамі Полацка.

Дарэчы, у першым і другім турах ішла ўпартая барацьба нават за дзесятыя долі бала. Камандзе Брэсцкай вобласці, можна сказаць, пашанцавала: яна заняла першае каманднае месца і першае, другое і трэцяе месцы ў асабістых заліках. Вольга, напрыклад, адзіная дзяўчына — прызёр алімпіяды.

Як і іншым прызёрам, Вользе Кныш адкрыта дарога ў любую вышэйшую навучальную ўстанову Беларусі, дзе матэматыка — прафіліруючы прадмет. Віншуем Вольгу з поспехам. Нашы віншаванні таксама і яе настаўніцы матэматыкі Л. У. Кудзеліч, якая падрыхтавала сваю вучаніцу. Праца Людмілы Уладзіміраўны адзначана дыпломам III ступені Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

**Жанна КУЛАК.**

## Мешочек с героином

**БАРАНОВИЧИ.** На прошлой неделе сотрудники Барановичского РОВД обнаружили в одном из частных домов вроде ничем не примечательный ситцевый мешочек. А в мешочке 60 пакетиков из фольги. Содержимое пакетиков оказалось подозрительным. И, действительно, это был героин. Целых 16 граммов. Хозяин дома заявил, что приобрёл его на Полесском вокзале для себя. Вряд ли можно согласиться с его утверждением. Хозяину — 60 лет.

**Галина СТРОЦКАЯ.**

# РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на прадуктовых рынках нашага рэгіёну па стану на 27.06.2001 г. (у руб. за адзін кілаграм):**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын |
|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2500—3000 | 2500—4000 | 2500—3600 | 2500—3700 | 2600—3000 |
| Сала салёнае | 1900—2500 | 1800—2800 | 2200—2500 | 2600 | 2700 |
| Алей (1 л) | 800—1200 | 800—1100 | 750—950 | 800—1200 | 900—1200 |
| Яйкі | 850—900 | 800—1000 | 900—1000 | 1000 | 1000—1050 |
| Малако (3 л) | 600 | 600 | 600 | 680 | 630—670 |
| Шпроты | 450—470 | 400—450 | 500 | 500 | 570 |
| Масла сметанк. | 2200 | 2000 | 2000 | 2000 | 2100 |
| Бульба | — | 600—1000 | 300—800 | — | — |
| Цыбуля | 700 | 450 | 500 | 500 | 450 |
| Морква | 1500 | 1600 | 1700 | 1700 | 1500 |
| Капуста | 600—800 | 500—600 | 450 | 550—700 | 500 |
| Памідоры | 1600 | 1700—2000 | 1500 | 2000 | 1400 |
| Буракі | 60—80 | 120—140 | 60—80 | 80 | 90 |
| Чарэшня | 3000 | 2000—2500 | 3000 | 3000 | 3000 |
| Грэцкія арэхі | 1800 | 2000 | 1500 | 1300—2100 | 1800 |
| Яблыкі | 800—1500 | 700—1500 | 800—1300 | 800—1500 | 800—1000 |
| Маянэз | 250—400 | 240—420 | 250—420 | 270—450 | 250—520 |
| Вінаград | 5000 | 3800—5000 | 3800—4500 | 4500 | 4000—4700 |
| Агуркі | 400—600 | 550—600 | 500 | 700 | 400—500 |
| Часнок | 1900—2000 | 1800 | 2000 | 1800 | 1300 |
| Лімоны | 1900 | 1400—1600 | 1600 | 1600 | 1100 |
| Апельсіны | 2000—2200 | 1200—1300 | 1300 | 1400 | 1600 |
| Бананы | 1100—1200 | 1000—1200 | 1000—1300 | 1300 | 1200 |
| Клубніцы | 1000 | 1000—1500 | 1000 | 1200—1300 | 1000 |
| Грэчка | 550—600 | 650 | 650 | 660 | 630 |
| Макар. вырабы | 550—650 | 500—600 | 580—650 | 500—600 | 670 |
| Рыс | 500—550 | 500—520 | 550 | 560 | 600 |
| Манныя крупы | 500 | 460 | 500 | 540 | 530 |
| Проса | 350—400 | 330 | 380 | 400 | 380—400 |
| Цукар | 640 | 600 | 600 | 610—640 | 600 |
| Мёд | 4.000 | 4.000 | 4.000 | 4.000 | 4.000-4.100 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1400 | 1500 | 1400 | 1430 | 1400 | 1450 | 1400 | 1480 | 1400 | 1450 |
| 1 дойчмарка | 595 | — | 580 | 610 | 590 | 610 | 590 | 610 | 590 | 610 |
| 1 рубель Расіі | 45 | — | 44 | 46 | 44 | 49 | 46 | 49 | 46 | 49 |

## Пачым парасяты?

**ІВАЦЭВІЧЫ**
50000 — 75000 (за пару);

**БАРАНАВІЧЫ**
60000 — 80000 (за пару);

**БЯРОЗА**
60000 — 75000 (за пару);

**ПРУЖАНЫ**
60000 — 80000 (за пару);

**ДРАГІЧЫН**
55000 — 70000 (за пару).



# СЯМЁН ДОМАШ:
## "Беларусі патрэбен новы лідэр"



Сямён Домаш.

21 чэрвеня ў выбарчым штабе Сямёна Домаша адбылася прэс-канферэнцыя, на якой прысутнічалі журналісты айчынных і замежных СМІ. Нагодай для яе правядзення стаў пачатак кампаніі па збору подпісаў. У ініцыятыўнай групе Домаша - 3695 чалавек. Яна моцная арганізацыйна, асабліва ў рэгіёнах. Гэта адрознівае С. Домаша ад астатніх прэтэндэнтаў, якія робяць стаўку на Мінск і буйныя гарады. У складзе групы прадстаўнікі шырокай грамадскасці - партый, грамадскіх рухаў і аб'яднанняў, прафсаюзных арганізацый.

С. Домаш заявіў, што яго каманда знаходзіцца ў стадыі фармавання, але некаторыя імёны быліназваны ўжо на прэс-канферэнцыі. Так, згоду працаваць з С. Домашам і ўсяляк яго падтрымліваць далі Людміла Карпенка, рэжысёр Юрый Хашчавацкі, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Уладзімір Кудзінаў, палітык Аляксандр Дабравольскі, лідэр "Саюза праваслаўнай моладзі" Андрэй Петравых.

Каменціруючы факт рэгістрацыі 22 ініцыятыўных груп, С. Домаш сказаў, што за сем гадоў магла выстраіцца і не такая чарга, бо шмат людзей прагне перамен. Але ў гэтым спісе Домаша насцярожвае суседства двух асоб — А. Лукашэнкі і З. Пазьняка. Сямён Домаш выказаў насцярожанасць фактам рэгістрацыі ініцыятыўнай групы Зянона Пазьняка. Ён заявіў, што паводле ўсіх існуючых юрыдычных правілаў, ініцыятыўная група Пазьняка не магла быць зарэгістравана з той прычыны, што прэтэндэнт ужо некалькі гадоў жыве за межамі Беларусі. Як падкрэсліў Сямён Домаш, у гэтым выпадку відавочна разыходжанне дзеянняў Цэнтрвыбаркама і існуючага заканадаўства, і такі сцэнарый выгадны Лукашэнку. "Вялікая частка людзей не падтрымлівае разбуральную палітыку Лукашэнкі. Зразумела, што яму трэба чымсьці "прыкрыць" сваю палітыку разбурэння. Для гэтага вельмі падыходзіць Пазьняк - такі ж харызматычны чалавек і такі ж разбуральнік, як і Лукашэнка. Падчас выбарчай кампаніі Пазьняк патрэбны Лукашэнку. Яны — два боты — пара, толькі адзін на Захадзе, а другі глядзіць на Усход",— сказаў С. Домаш. Ён заявіў, што час разбуральнікаў ужо прайшоў і Беларусі патрэбен новы лідэр, які б займаўся стваральнай дзейнасцю.

Адказваючы на пытанне аб магчымых зменах у стратэгіі "пяцёркі" дэмакратычных кандыдатаў, Домаш зазначыў, што агульная мэта аб'яднання пяці палітыкаў — змена існуючага рэжыму. "Каб дабіцца гэтай мэты, я ўключуся ў выбарчую кампанію. Калі на мяне выпадзе роля адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў, я гатовы прыняць гэтую ролю ў поўнай меры і поўным аб'ёме, які будзе патрэбны", — сказаў Сямён Домаш. Прагучала пытанне і аб стаўленні да Міхаіла Марыніча, які далучыўся да прэзідэнцкай гонкі. "Не выключана магчымасць, — заўважыў сп. Домаш, — што Марыніч будзе нашым партнёрам па супольнай барацьбе супраць гэтага рэжыму. Я спадзяюся, што ён увойдзе ў склад шырокай кааліцыі, якая будзе супрацьдзейнічаць рэжыму Лукашэнкі".

На пытанне аб магчымым дачыненні беларускіх уладаў да знікненняў вядомых людзей, С. Домаш зазначыў, што паказальным з'яўляецца маўчанне Генеральнага пракурора В. Шэймана пасля вядомай заявы следчых Петрушкевіча і Случака. Гэта, па словах Домаша, наводзіць грамадства на пэўныя думкі. Ён падкрэсліў, што адно з рэальных "дасягненняў" уладаў за 7 гадоў кіравання А. Лукашэнкі - гэта з'яўленне ў Беларусі групы забойцаў, якія займаюцца знішчэннем небяспечных для рэжыму людзей.

Нечаканы візіт А. Лукашэнкі ў Маскву 20-21 чэрвеня С. Домаш тлумачыў тым, што "кіраўніцтву Расіі даўно надакучылі выбрыкі беларускага прэзідэнта, і яму, хутчэй за ўсё, прапаноўвалі зручную пасаду ў рамках Саюза, каб спыніць увесь гэты балаган у Беларусі".

**Прэс-служба выбарчага штаба Сямёна Домаша.**




7 ліпеня 2000 года знік наш калега Дзмітрый Завадскі. Хутка год, як яго сям'я пазбаўлена бацькі і мужа. Беларуская асацыяцыя журналістаў заклікае ўсіх неабыякавых людзей дапамагчы сям'і Дзмітрыя Завадскага і дасылаць ахвяраванні на разліковы рахунак Святланы Міхайлаўны Завадскай. Калі ласка, абавязкова пазначайце прызначэнне плацяжа: **АХВЯРАВАННЕ СЯМ'І, СЫНУ ДЗМІТРЫЯ ЗАВАДСКАГА.**

Рэквізіты банка-атрымальніка:
**Рахунак для ахвяраванняў у валюце:**
**PRIORBANK**
Minsk V.Horuzhey str.31-A
**SWIFT Code: PJCB BY 2X**
**3134125305029**
Атрымальнік: **Sviatlana Zavadskaya**
**Рахунак для ахвяраванняў у беларускіх рублях:**
**Р/р 3134125300011,**
**"Пріорбанк" ОАО, код 749**
Атрымальнік: **Святлана Міхайлаўна Завадская.**

•

20 чэрвеня Беларуская асацыяцыя журналістаў звярнулася да міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Навумава і генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Віктара Шэймана з прапановай правесці прэс-канферэнцыю і адказаць на пытанні, якія з'явіліся пасля заявы былых следчых пракуратуры Дзмітрыя Петрушкевіча і Алега Случака.

Беларуская асацыяцыя журналістаў патрабуе ад кіраўнікоў гэтых ведамстваў адказу на пытанне: ДЗЕ ДЗМІТРЫЙ ЗАВАДСКІ? Грамадства мае права на праўдзівую інфармацыю.

**Прэс-служба ГА "БАЖ"**

# "Цытадэль" — за Лукашэнку

**У Берасці абвешчана пра стварэнне грамадскай арганізацыі, што ставіць за мэту правядзенне прапагандысцкай кампаніі на карысць Аляксандра Лукашэнкі. Дзейнасць гэтай арганізацыі будзе фінансавацца ў тым ліку і за кошт сродкаў прадпрыемстваў вобласці.**

Рэгістрацыя новага грамадскага аб'яднання "Цытадэль" ва ўпраўленні юстыцыі Берасцейскага аблвыканкама адбылася ў рэкордны для гэтай працэдуры тэрмін - за 11 дзён. Варта нагадаць, што некаторыя іншыя грамадскія аб'яднанні не могуць зрабіць гэта на працягу некалькіх гадоў, з-за чаго адбываецца судовы пераслед за дзейнасць ад імя незарэгістраваных арганізацый.

Сярод асноўных накірункаў дзейнасці аб'яднання "Цытадэль" пазначаны і наступны "Правядзенне інфармацыйна-прапагандысцкай работы сярод насельніцтва вобласці па тлумачэнні сацыяльна-эканамічнага курсу прэзідэнта і ўрада Рэспублікі Беларусь". Узначаліў гэтае грамадскае аб'яднанне старшыня Берасцейскага абласнога савету дэпутатаў Леанід Лемяшэўскі. Спадар Лемяшэўскі ўжо паспеў паведаміць журналістам, што не бачыць нічога дзіўнага ў хуткай рэгістрацыі "Цытадэлі", паколькі, маўляў, аб'яднанне збіраецца весці прапаганду канстытуцыйнага ладу беларускае дзяржавы, самаадданасці краіне, народу і дзяржаўным сімвалам.

Ініцыятыўная група па стварэнні "Цытадэлі" складаецца з уплывовых асобаў, некаторыя з іх былі абраны ў кіруючыя органы грамадскай арганізацыі. Але, напрыклад, галоўны ўрач Берасцейскага раённага медыцынскага аб'яднання Ніна Федарук даведалася пра сваё абранне ў склад рады "Цытадэлі" толькі ад карэспандэнта Радыё Свабода і адмовілася каменціраваць гэта рашэнне.

Ужо ў самы бліжэйшы час "Цытадэль" плануе распачаць прапагандысцкую працу на Берасцейшчыне, каб давесці насельніцтву пра поспехі цяперашніх беларускіх уладаў за апошнія сем гадоў. Самым таямнічым застаецца пытанне пра фінансаванне дзейнасці "Цытадэлі". Леанід Лемяшэўскі лічыць, што вялікіх сродкаў не спатрэбіцца і ўсе выдаткі будуць пакрыты за кошт ахвяраванняў прыватных асобаў і суб'ектаў гаспадарання. Кіраўнікі некаторых берасцейскіх прадпрыемстваў ужо выказалі думку, што ахвяраваць грошы на дзейнасць "Цытадэлі" прыйдзецца пад прымусам.

**Радыё "Свабода".**

# Реестр неприкасаемых
## Лукавство как инструмент предвыборной кампании

В воскресенье, 24 июня, в программе "Время" Леонид Синицын заявил, что сегодня в Беларуси существуют списки людей, которых нельзя подпускать к телевидению, и он в этих списках значится под №1. Я действительно уверен, что такие списки существуют, причем появились они не сегодня, а еще в начале 1995 года. Тогда в эти списки попали многие, в том числе, разумеется, и я. Никто, правда, этих списков не видел: кулуарность, "подковерные" решения к тому времени стали стилем работы администрации президента. Руководил этой администрацией, как известно, сам господин Синицын. Именно при его участии была снята с эфира первая из программ "Теледебаты", а в дальнейшем прекратила свое существование студия "Политика", пытавшаяся в то время довести до общества весь спектр мнений. Это не устраивало главу администрации. Тогда-то мне и стало известно, что появился список неугодных и что моя фамилия тоже в него угодила. Я более чем уверен, что этот реестр неприкасаемых не мог быть составлен без участия господина Синицына.

Повторяю, я убежден, что такой список есть и сегодня, более того, я не исключаю, что в этом списке есть и фамилия господина Синицына. Но он, безусловно, в конце этого списка, хотя бы потому, что первые номера в нем были "вписаны" под его чутким руководством.

Так что хотел бы сказать господину Синицыну и его спичрайтеру Федуте: поздравляю господа, соврамши. Лукавство, как известно, было основным инструментом предвыборной кампании Лукашенко.

Печально, что это повторяется на новом витке и в предвыборной кампании Синицына.

Хотел бы также обратиться и к своим друзьям-журналистам, чьи фамилии тоже были в свое время включены в эти списки и которые сегодня "пиарят" в пользу господина Синицына: вам не кажется, что вы наступаете второй раз на одни и те же грабли?

**Юрий ХАЩЕВАТСКИЙ,**
**лауреат премии Союза писателей России "Апрель" имени А. Д. Сахарова за фильм "Обыкновенный президент".**

# Заява
## Кансультатыўнай рады апазіцыйных палітычных партый

**"Аб недэмакратычным характары фарміравання выбарчых камісій"**

Папулярнасць А.Лукашэнкі імкліва падае. На сённяшні дзень яго рэйтынг не дасягае нават 20 працэнтаў. Ён не мае ніякіх шанцаў атрымаць перамогу на годных і адкрытых выбарах. Таму правячы рэжым імкнецца захаваць ягоную ўладу шляхам татальнай фальсіфікацыі вынікаў галасавання. Аб гэтым сведчыць практыка фарміравання тэрытарыяльных выбарчых камісій. Яны практычна цалкам складаюцца з прадстаўнікоў выканаўчай улады. Іх склад на 90 працэнтаў паўтарае склад камісій, якія працавалі на папярэдніх выбарах.

З больш чым за 600 прадстаўнікоў у гэтыя камісіі, прапанаваных дэмакратычнымі палітычнымі і грамадскімі арганізацыямі, не ўключаны амаль ніхто.

Калі не зменіць сітуацыю, праводзіць выбары безсэнсоўна, бо 100-працэнтная фальсіфікацыя іх вынікаў на карысць А.Лукашэнкі забяспечана.

Кансультацыйная рада апазіцыйных палітычных партый звяртаецца да мясцовых улад з патрабаваннем неадкладна спыніць захады супраць грамадзян і парушэнні дзеючага заканадаўства аб выбарах. Наступіць час, калі прыдзецца адказваць за гэтыя дзеянні.

Мы звяртаемся да Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі і просім яе праінфармаваць краіны АБСЕ аб чарговым грубым парушэнні правоў грамадзян Беларусі.

# ЗАРПЛАТА ПРЫ "РЫНКАВЫМ САЦЫЯЛІЗМЕ"

## Ці задавальняе яна працуючых?

**Пасля распаду СССР у Беларусі засталася сістэма размеркавання заработнай платы, яе цэнтралізаванае рэгуляванне. Ніякіх перспектыў не бачна: зноў мінімум жыццёвых сродкаў з'яўляецца зыходнай мерай аплаты працы. Назіраецца моцны інфляцыйны рост намінальнай заработнай платы.**

Калі ўлічыць, што беларускі рубель напрыканцы 1999 года быў дэнамінаваны на тры "нулі", дык пры павелічэнні сярэднемесячнай зарплаты з 264 рублёў узору 1990 года да 87669 рублёў у снежні 2000 года рост склаў прыкладна 332 разы. Пры такім росце намінальных памераў зарплаты прынцыповае значэнне набывае не намінальная, а рэальная зарплата. Яна вызначаецца колькасцю і якасцю тавараў і паслуг, якія можна набываць за намінальную зарплату з улікам змянення цэн на тавары і паслугі за пэўны перыяд часу. Гаворка ідзе пра спажывецкія тавары і паслугі, якія звычайна ўлічваюцца праз мінімальны спажывецкі бюджэт.




Лічым кожную капейку.

Яшчэ 29 мая 1992 года пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 323 былі зменены нарматывы не ў лепшы бок, паводле якіх разлічваецца мінімальны спажывецкі бюджэт. Яны паменшыліся па мясу і мясапрадуктах на 21,3 працэнта, па рыбе і рыбапрадуктах — на 42,3, па тварагу — на 44,4 працэнта. Гэты спіс можна працягваць і далей, але са знакам "мінус". Зніклі нарматывы спажывання кансерваў усіх відаў, нарматывы па цытрусавых і бахчавых.

А што павялічылі ўзамен? Аказваецца, нарматывы спажывання хлеба, макаронных вырабаў, бульбы, сала, малака, цукру. Гэта новая харчовая мадэль так званага "рынкавага сацыялізму", дзе перавага аддаецца тлушчам і вугляводам замест бялковага рацыёну і вітамінаў.

Варта адзначыць і тое, што мінімальны спажывецкі бюджэт для беларусаў не прадугледжвае зберажэнняў. Таму набліжэнне сярэднемесячнага заробку да ўзроўню мінімальнага спажывецкага бюджэту азначае падрыў магчымасці ўнутраных інвестыцый у нацыянальную эканоміку. А эканоміка працуе і на прынцыпе "зберажэнні—інвестыцыі". Якія ж могуць быць зберажэнні, калі дзяржава мае яшчэ ўнутраны доўг перад насельніцтвам?

Сярэднемесячная зарплата ў 87669 рублёў у снежні мінулага года па курсе беларускага рубля адпавядала 0,4—0,45 амерыканскага долара пагадзіннай аплаты працы.

Калі параўнаць яе з аплатай у Еўрасаюзе (не менш 6 долараў за гадзіну, і гэта абсалютны мінімум за некваліфікаваную працу), дык бачым адну з важнейшых крыніц інвестыцый у банкаўскіх сістэмах гэтых краін.

Думка нашых заканадаўцаў-палатнікаў, што праблему можна вырашыць праз падаткаабкладанне, зусім нерэальная. Ужо не сакрэт, што яно наогул страціла ўсялякія разумныя межы. У рэаліях жыцця відаць не "правільнасць выбранага курсу", а спаўзанне да беднасці.

Нізкая зарплата не арыентуе работніка на лепшы вынік працы. Затое яна прымушае работніка шукаць "падработкі", красці, не плаціць падаткі і г. д.

А тут яшчэ адкрываецца непазбежны спадарожнік "жыццёвых сродкаў" (і ім трэба!) — пастаянныя праверкі, кантроль, штрафы, назіранні. Служба чыноўніцтва імкліва расце...

У заходняй цывілізацыі метад адміністрацыйнага кіравання саступіў іншым метадам, напрыклад, "чалавечых адносін". Без сумнення, што падобная праблема стаіць і перад кіраўніцтвам Беларусі, але сучасная вертыкаль на чале з прэзідэнтам не можа вырашыць узнікшай праблемы. Гэта пераканаўча паказаў сямігадовы тэрмін прэзідэнцкага праўлення. Чаго яшчэ чакаць?

**Мікалай ВОЛЧЫК.**
**в. Зеляневічы**
**Пружанскага раёна.**

# О сберкнижке

## в кавычках и без

**Хочу через вашу газету помочь земляку разобраться в вопросах столь его волнующих, что он решил обсудить их в прессе. В "Івацэвіцкім весніку" (№ 35) под рубрикой "Палітычныя дыялогі" господин Иван Осташеня опубликовал статью "Деньги". Чтобы всем стало понятно, о чем идет речь, вкратце процитирую:**

"Существует власть, чтобы найти тех, кто прибрал народные сбережения. От закона никто не должен уйти. Люди должны знать тех, кто вывернул их карманы... В своё время эту сберкнижку мы могли приобрести за 70 копеек (под сберкнижкой подразумевается 1 доллар США — **авт.**)... Ещё замечу, что вторая сберкнижка счастья в наши дома (в своём большинстве) не принесла и не принесёт..."

А теперь по порядку. Народ знает тех, кто вывернул их карманы. Еще в период СССР властьимущие, чувствуя крах империи, потянулись в сбербанки за кредитами и ссудами под строительство на длительный срок. Так за народные деньги появились всем известные "царские сёла". Кому они принадлежат? Властьимущим, для которых закон, что дышло...

Народ тоже пытался сберечь честно накопленные средства, но во что он мог вложить свои деньги в период пустых прилавков? Закупить круп, макаронов и сахара на 10 лет вперед? Так ведь червячки заведутся...

А если бы в то время можно было купить, как вы выразились, господин Осташеня, "вторую сберкнижку", то люди сберегли бы свои сбережения. Но тогда приобрести 1 доллар за 70 копеек могли только властьимущие, а для народа за валютные операции существовала статья, вплоть до лишения свободы.

Во многие дома нашей республики ворвалось горе, связанное с Чернобыльской трагедией. И разве не счастье, если с помощью "второй сберкнижки" удалось спасти за рубежом или вылечить своих родных и близких?

Вместо того, чтобы народу тревожить "былую рану", посоветуйте лучше, где можно "вооружиться" граблями и косами. Не за горами пора сенокоса, а мы должны отдать колхозу по 400 кг сена с брата да еще за спасибо. Вот вам и сберкнижка!

**С уважением**
**Николай НОВИКОВ.**
**г. Ивацевичи.**

# Музей-библиотека открывает дверь

## Двойной праздник деревни Войтешин Березовского района

**24 июня в дер. Войтешин Берёзовского района состоялось торжественное открытие общественного музея-библиотеки. Это единственное в области учреждение подобного рода и уже 21-й по счёту музей в районе.**

Разместился он в большом особняке, некогда бывшей школе, в последнее время пустовавшей, за исключением одной комнаты — библиотеки. И вот благодаря помощи отдела культуры Берёзовского райисполкома, совхоза "Песковский", сельского Совета и самих жителей деревни произошло это чудесное превращение. Но главным действующим лицом, героиней праздника, стараниями которой и родился музей, была, безусловно, библиотекарь и отныне заведующая созданного ею музея Лидия Ивановна Рудьман — Хозяйка, как ласково называли её гости. Идея открытия такого учреждения культуры возникла у неё ещё в середине 90-х гг. На просьбы библиотекаря откликнулись многие жители, которые безвозмездно принесли в дар свои вещи, семейные реликвии.

...Перерезана красная ленточка. Музей открыт. Первая экскурсия для всех гостей. Из просторного светлого фойе, где разместилась галерея вышивок, посетители потоком идут в два выставочных зала: "Быт и этнография" и "Прошлое и современность". В первом зале представлен интерьер деревенской хаты: печь, стол, лава, горшки, плетёная колыбель для маленького ребёнка, ткацкий станок — кросна, керосиновые лампы, утюги, образа в углу; в клети - коши, огромные козубы, прочая утварь. И здесь, в самый пик посещения, глазам многочисленных гостей предстала трогательная картина — бабушка показывает своим внукам одежду, в которой когда-то, давным-давно, ходила в школу.

Второй зал посвящён людям Войтешина, отличившимся ратными и трудовыми подвигами, есть здесь экспозиция и о семье магнатов Пусловских, до 1939 года владевших этими территориями.

А вот слова о музее его Хозяйки и некоторых почётных гостей праздника.

**Лидия Рудьман:** "Сколько я ни обращалась к жителям Войтешина, Песок, в совхоз, сельсовет, отдел культуры, — они всегда встречали меня с открытой душой и помогали, кто чем может. Есть такая пословица — один в поле не воин. Она как нельзя лучше применима и к этому нашему общему делу...

**Николай Редько, заместитель председателя райисполкома:** "Это первый у нас в районе музей-библиотека. И я надеюсь, что вы на этом не остановитесь, музей будет разрастаться, процветать и к вам будут приезжать из других районов, изучать ваш опыт."



Хозяйка музея Лидия Ивановна Рудьман.

**Антон Барашко, начальник отдела культуры райисполкома:** "Создать музей - это очень большой труд. Но самое главное то, что здесь показан талант, доброжелательность наших людей, их золотые руки..."

**Владимир Панасюк, директор совхоза "Песковский":** "Когда Лидия Ивановна впервые сказала мне о музее, я к этому отнёсся скептически. Но когда я переговорил с этим человеком, увидел её целеустремлённость, понял - музею быть. Так оно и вышло."

**Любовь Киватыцкая, директор Берёзовского краеведческого музея:** "Адкрыццё гэтага музея найболей карысным будзе для дзяцей. Я пераканана — калі дзіця з маленства далучыцца да нашых святых рэліквій, з яго абавязкова вырасце спагадлівы, дабразычлівы чалавек."

Открытие музея было приурочено ко Дню деревни. Жители ждали этого двойного праздника, готовились к нему. И он действительно получился на славу. Праздник с большой буквы. Праздник, на который съехались уроженцы Войтешина со всей Беларуси. Всё было проникнуто атмосферой радости, душевного тепла и какого-то внутреннего единения всех собравшихся в этом месте людей. За весь проведённый здесь день, автора не покидало впечатление, что жители этой деревни - одна большая семья, умеющая по-настоящему работать и отдыхать, умеющая сделать настоящий Праздник, с которого не хочется уезжать.

Если вам вдруг доведётся бывать в здешних местах, не пройдите мимо, обязательно загляните сюда, в этот чудесный уголок, и наградой вам будет незабываемая встреча с Хозяйкой и её музеем.

**Николай СИНКЕВИЧ.**
**(Фото автора).**
**г. Берёза.**



Мария Тихоновна Мостыко: "В этих гумаках после войны ходил мой отец".



Интерьер клети.

# ТАКАЯ ВОТ ЛЮБОВЬ

## Куда деться барышне от хулигана

"Здравствуйте уважаемая "Газета для вас". Обращаюсь к вам с необычной, может быть, просьбой-рассказом. Хотелось бы помощи попросить, да душу облегчить.

Вот уже несколько лет мне нет никакой жизни от одного человека, мужчины, который так же, как и я, проживает в деревне Юголин Ивацевичского района. Он меня постоянно преследует, ходит за мной по пятам, просит, грозится, требует, чтобы я вышла замуж за него, жила с ним, то есть.

Я — вдова (мой муж погиб), воспитываю дочь, работаю в школе-интернате воспитателем.

Он — старый холостяк, окончательно опустившийся, несколько раз лечившийся от алкоголизма, нигде не работающий.

Его притязания под собой не имеют никакой почвы: ни одним словом, ни одним взглядом я не выразила хоть какие чувства к нему, их просто нет и не может быть по определению. Однако и в школе ( он может позволить себе прийти в школу, зайти в кабинет!), и на улице этот чужой мне мужчина устраивает сцены и скандалы. От него нет покоя и дома. Вчера целый вечер он барабанил мне в окна, выбил стекло, его "нежный" лексикон, кстати сказать, зиждется от "любимая" до "с..." и "б..."

Я обращалась в милицию — и представьте себе, оказалось, что милиция в подобных ситуациях такая же беспомощная, как я.

К примеру, вчера, когда он, разбушевавшись, выбил в моём доме стекло, я вызвала вечером милицию. Милиция не приехала, хоть пообещали. Ну что ж, спасибо и за это.

Его, правда, милиция забирала раньше, после моих обращений, куда-то раз или два, через пару дней он является домой, чтобы новый шквал "нежностей" обрушить на мою голову. Зачем мне это?

Такая вот любовь...

С уважением Н. В. Л.,
д. Юголин Ивацевичского района.



Вот какой выход предложил начальник отделения общественной безопасности и профилактики Ивацевичского РОВД, старший лейтенант милиции Павел ЖУКОВИЧ:

— Прекрасно понимаю, о ком идёт разговор, этим клиентом мы занимались неоднократно, за мелкое хулиганство (156-я статья) его привлекали несколько раз, а в начале этого года он уже получил 15 суток.

Он отбывал срок за злостное хулиганство (339-я статья) в местах лишения свободы.

Рекомендация одна: гражданке необходимо обратиться к нам, написать заявление, мы проведём проверки и, если есть административное правонарушение, накажем в административном порядке, если уголовное, — то в уголовном.

Подготовил
Александр ГОРБАЧ.

# "Красиво ты вошла в мою грешную жизнь..."

## Бывают такие письма

...Каждый раз, когда езжу через ваш Ивацевичский район в сторону белорусско-польской границы, с самыми нежными воспоминаниями смотрю на указатель, обозначающий, что до Бытени 9 км, и на саму дорогу.

Если не ошибаюсь, в 1992 году я работал на стройке в городе Слоним. Иногда, на выходные, ездил оттуда в Пинск, через Бытень и Ивацевичи, — там живут мои родственники.

В одну из таких поездок случайно и — жаль! — ненадолго познакомился с очень эффектной и красивой девушкой, по имени Оксана. Она тоже тогда где-то работала (или училась?), но не в Слониме, а дальше, в Дятлово что ли?

Это была до такой степени классная девушка, что я обалдел, и, сидя рядом с ней в автобусе (наши места оказались рядом), не мог от волнения связать двух слов, завязать разговор — так она меня поразила. Но, в конце концов, разговорился, Оксана оказалась столь общительной и интересной, сколь красивой.

После Жирович я уже болтал вовсю, помог потом отнести её сумку к двери автобуса. Она вышла в Бытени, я сегодня спрашиваю себя: что мешало мне выйти следом?

Следующим вечером, когда этим же рейсом мне довелось ехать обратно в Слоним, Оксана, окружённая толпой парней, скорее всего её провожающих, производила, скажем так, посадку всё в той же Бытени. Была Оксана уставшая, измученная. Автобус в Слониме стоял 30 минут, и я на это время "заполучил" её...

Мы сидели на лавочке в сквере, около привокзальной площади. Была почти ночь. Мокрый асфальт матово блестел, на нём, словно отпечатки чьих-то бессмысленных шагов, лежали кленовые листья. Романтика, одним словом.

Оксана курила, о чём-то устало говорила, мне казалось, что она думает о каком-то серьёзном шаге в её жизни, но и ко мне, как мне показалось, она отнеслась с симпатией. Вот только совсем в разные стороны лежали наши пути-дорожки на этот момент.

Где же теперь она, та эффектная Оксана?

ОЛЕГ.
г. Барановичи.

# Кахання нягучныя словы

## пра пяшчотныя пачуцці ў вашых лістах і вершах

Пошта "Газеты для вас" захоўвае нямала пісем, якія прысвечаны самаму, як лічаць многія з нас, важнаму пачуццю на свеце — каханню. Найбольш дакладна сутнасць любві, як падаецца аўтару гэтага артыкула, выказаў у сваім вершы вялікі рускі паэт Аляксандр Блок, які сказаў, што "толькі закаханы мае права на званне чалавека".

Дарэчы, вершы пра каханне пішуць, як мы высветлілі, не толькі маладыя людзі (15-20 гадоў), але людзі і сталага ўзросту. Гэта сведчыць, што рамантычнасць характару, душы чалавека не залежыць ад узросту.

Сёння мы змяшчаем вершы на тэму кахання ад нашых чытачоў з Івацэвіч, Бярозы, Пружан. Чакаем вашых новых лістоў.

### А сама чакала...

Ты сказаў: ідзі і не вяртайся!
Можаш не аглядвацца назад.
А ў мяне шнурочак развязаўся
І ну не завязваўся ніяк.

Я яго нат слінай паслініла,
Каб у чаравічак свой прадзець.
Корпалася, а сама чакала,
Каб ты хоць спыніўся паглядзець.

Але ты пайшоў, сваім зацяты,
Пстрыкнуў цыгарэтай у агарод.
Ціхенька хіхікнулі дзяўчаты, —
Вечна зацікаўлены народ.

Вострая, халодная дажджынка
Капнула з сасулькі на шчаку.
І ніхто з прахожых той дзяўчынкі
Для падтрымкі не падаў руку...

А наранак выпаў белы снег
І пачаўся дваццаць першы век.

Ганна ХАДАРОВІЧ.
г. Пружаны.

### Беларусачка

Ці лугам іду, ці дарогаю —
Забытыя словы вастру.
Гляджу на рачулку з трывогаю,
Над ёю жыццё дам кастру.

Ах, рэчка, рэчка, даль далёкая,
Хто на чоўне к цяпельцу плыве?..
Беларусачка сінявокая
Мне раскажа пра чары свае.

Слова скажа — душа маладзее.
Хай мне хлопцы зайздросцяць усе.
Кветку шчасця, любоў і надзею
Гэта ночка мне сёння нясе.

Ах, рэчка, рэчка, ноч глыбокая
Човен бераг пакінуў-паплыў.
Беларусачка сінявокая,
Хвалі звоняць наш родны матыў.

Не патухне касцёр мой ніколі,
Як пачуцці, як мары людзей.
Паняслі нас бяскрылыя коні,
Іх не спыніць ніхто ані дзе.

Ах, рэчка, рэчка, ціш наваколля,
Не парвецца жыцця наша ніць,
Беларусачка сінявокая,
Дазволь душу табой наталіць.

Пятро ВАЛІНСКІ.
в. Стайкі.

# Помните ли вы свою первую любовь?

## Вспоминают жители г. п. Телеханы



**ЛЮДМИЛА:** Была у меня первая любовь. Он — меня немножко старше и мне сильно-сильно понравился. Имя его — Алексей. Знаю ли я, где он сейчас? Ещё бы! Ведь я замужем за ним.



**АННА:** Мне было 18 лет — студенческие годы. Его звали Сергей. Не могу без слёз вспоминать, ведь он вскоре погиб в автокатастрофе. Немалая вина в случившемся на нашей милиции. Не могу забыть...



**САША:** Помню, это не забывается. Самая первая, детская — Лена, в более зрелом возрасте — Валентина, которая вышла замуж, пока я служил, а нежные чувства к ней остались и по сей день.



**АЛЛА:** Помню, его звали Андрей. Но отношения с ним не сложились. Он знал, что мне нравится, что я его люблю. Это было уже в сознательном возрасте. Его судьба мне интересна и теперь.



**СТЕПАН СТЕПАНОВИЧ:** Её звали Надежда. Мне было 25 лет. Теперь наши дороги разошлись, она живет здесь, в посёлке. Были мы женаты, имеем четверых детей. Вспоминаю о ней с нежностью.



**ИГОРЬ:** Мне было 16, может быть 17 лет, имя её — Мария. Она до сих пор не знает о том, как мне нравилась. Она живёт где-то под Гродно, мы давно не виделись, я сам долго жил за пределами Беларуси.

В народ ходили Александр ГОРБАЧ, Жанна Глушеня (фото).

